# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

XV.

Ужо праз нейкі час аб падзеях у Кітаі нічога не пісалася. Хоць хатняя вайна ў Кітаі не спынялася, але-ж так сталася і гэтакі прыняла зварот, што нікога не цікавіла. Пад маўклівую сусьветнаю абсэрвацыяю, у Кітаі, нарасьлі новыя падзеі, якія сваім выбухам скалыхнулі ўвесь шырокі сьвет.

Пасьля ператасоўкі і перагрупіровак, з часу, калі ген. Чанг-Кай-Шэк перастаў быць галоўным камандуючым нацыянальнай арміі, апрача ўрадаў у Нанкіне ды Ханькоў, утварыўся ўрад у Кантоне — з прадстаўнікоў Куамінтанг-ляўіцы (гэтак называецца нацыянальна-радыкальная кітайская партыя) і камуністых.

Гэта быў трэцім урадам паўдзённага Кітаю. Трэба адзначыць, што ўвесь вызваленчы рух Кітаю пачаўся з Кантону. Які перакідаўся далей на поўнач, пераносячы і рэзыдэнцыю-цэнтралю бліжэй да агульна — кітайскага цэнтру — да Пэкіну, дзе засела буржуазная ўлада на чале з ген. Чанг-Тсо-Лінам. Якая, дзеля таго, каб утрымацца пры ўладзе запрадалася чужаземнай буржуазіі, дзелячы з ею ўладу, аддаючы народ на вызыск і пазбаўляючы Кітай незалежнасьці, як дзяржаву.

Новы кантонскі ўрад, сфарміраваўшыся і маючы пэўную частку падуладных сабе войск — праз даўжэйшы час нічога не рабіў у мэтах пашырэньня сваіх уплываў на шырэйшы абшар тэрыторыі. А тым часам у нутры самога ўраду дасьпевалі падзеі... Кончылася тым, што куамінтанг-ляв. парваў з камуністымі, аб'ядняўшыся ізноў з куамінтангам-правіцаю. У гэты-ж самы час нанкінскі ўрад, які складаецца з куамінтангу вярнуў на даўнейшую пасаду — галоўнакамандуючага ген. Чанг-Кай-Шэка.

Пасьля разрыву з куомінтангам, камуністы стварылі тое, што ізноў змусіла зьвярнуць вока на Кітай. Камуністы аружнаю сілаю захапілі Кантон і запанавалі ў ім.

Захапіўшы ўладу ў Кантоне, камуністыя выдалі адозву, у якой заклікалі: зьніштожыць усіх абшарнікаў і заўладаць зямлёю.

Чанг-Кай-Шэк, маючы на ўвазе, што савецкія консульствы даюць дапамогу камуністым, зачыніў гэтакія і намерыўся парваць дыплёматычныя зносіны з Масквою.

Распачаліся разрахункі з кантонскаю буржуазіяй. Нацыяналізаваны былі банкі, а магазыны і кватэры багатых кітайцаў, быццам разграбіў натоўп, ды армія. Разумеецца, што пры гэтым не шкадаваліся і гаспадары.

Прыблізна з гэтае прычыны загінула ў Кантоне, як пішуць газэты, 20 тысяч чалавек. Гэта лічыцца найвялікшым здарэньнем у гісторыі Кантону. Цэлыя кварталы места згарэлі, натоўп забіў сотні паліцыі і стражнікаў куомінтангу. Ахвяраю агню стала памешканьне цэнтральнага банку, у якім захоўвалася золата і папяровыя грошы. Аднак-жа, агнятрывалыя касы асталіся не запсутымі. Як відзім дык трыумф камуністых быў поўны, але-ж ня доўга. Кантонскі ўрад куомінтангу здушыў камуністых і пусьціў проці іх жахлівыя разрахункі. Газэты пішуць, што пасьля няўдачы камуністых, кантонскі ўрад злоўленых камуністых расстрэлівае. Усе вуліцы завалены трупамі камуністых, а пры гэтым, як гэта заўсёды здараецца, дастаецца і тым, якія пападаюцца, як ахвяры непаразуменьня і дзікае помсты і буйства. Кантонскі ўрад задушыўшы камуністычнае паўстаньне выдаў адозву, якою прапануе жыхарству выдаць камуністых.

Якія-ж з гэтага можна зрабіць вывады?

Перадусім ясна, што кантонскія падзеі і крывавыя разрахункі ёсьць вынікам таго ўціску і вызыску, тэй сацыяльнай несправядлівасьці, якая пануе, ня толькі ў Кітаі, але-ж і на ўсім сьвеце. Пэўна, што той натоўп і тая „камуністычная" армія, якая захапіла на нейкі кароткі час уладу ў Кантоне — па самай сутнасьці ня была камуністычнаю. Гэта была здараваненая пстрычка тэй пружыны, якую вельмі сагнулі. Кантонскія падзеі паказалі, што прыходзіць час ад часу такі мамэнт, які спрыяе нявольнікам разрахавацца па-свойму са сваімі гаспадарамі. Гэта была карающая рука, якая апусьціла вострую шаблю на галаву тых, хто ўсякімі сродкамі і спасобамі ўціскае бедны працоўны народ на сваю асабістую карысьць.

Ня можа быць ніякага сумліву ў тым, што на ўсім сьвеце сыцыяльны лад апынуўся ў гэтакім палажэньні, якое зьяўляецца несправядлівым, а цераз гэта паўстаюць забурэньні... Паўстае клясовая барацьба, якая быццам шукае направы сучаснага сацыяльнага ладу.

Паміма гэтага кантонскага здарэньня, яшчэ ўсё ня траціць сваей актуальнасьці польска-літоўскі канфлікт. Ня гледзячы на тое, што быццам Ліга Нацыяў паказала шлях і спосаб ліквідацыі ваеннага палажэньня паміж Польшчаю і Літвою, зьяўляюцца галасы, якія цьвердзяць, што ў запраўднасьці нічога не перамянілася. Літва не выракаецца прэтэнсіяў да Вільні, а Польшча ня хоча аб гэтым нават і гаварыць. У сувязі з гэтым, выліваецца лёгічная думка, што калі нават і зьедуцца польскія і літоўскія палітыкі для паразуменьня, дык паразуменьня ня створаць, бо галоўны вузёл не разьвязаны — Вільня стаіць на перашкодзе гэтаму.

Пілсудскі і Вальдэмарас — нясходзяць са шпальтаў газэтаў. Аб іх пішуць да безканцовасьці... Абодва яны былі відомымі фігурамі на форуме Лігі Нацыяў, дзе падалі — адзін другому — рукі для ўсьціску на знак — згоды. І вось гэтую згоду разглядаюць розна. Але-ж характэрна тут тое, што Пілсудскі ўсьціснуў руку Вальдэмарасу, пасьля таго, як параўняў яго з сваей прамовае з тым, хто знаходзіцца ў доме вар'ятаў.

Сьвет не стаіць на адным месцы: ён вечна рухаецца. А дзеля гэтага час паказвае нам усё новыя і новыя праявы. Не перастаюць быць цікаўнымі тыя ўнутраныя нялады, якія, яшчэ ўсё бачым у камуністычнай партыі. Увесь час працы камуністычнага зьезду ў Маскве, ідзе гутарка аб ліквідацыі апазыцыі ў камуністычнай партыі. Цэнтр партыі імкнецца да таго, каб поўнасьцю капітуляваць апазыцыю, а апазыцыя дамагаецца — існаваньня. Чым закончыцца гэтая спрэчка сярод камуністых — ня ведама. Аднак-жа ёсьць, шмат у каго, ня двузначнае прыпушчэньне, што апазыцыйнасьць у камуністычнай партыі выкліча хатнюю вайну ў савецкім царстве, якая давядзе да поўнага зьніштажэньня савецкай улады.

Эміграцкія групіроўкі шыкуюцца да таго, каб на самагубстве камуністых, захапіць сабе ўладу. Кожная групка мае намер быць спадкаберцам пасьля—бальшавіцкай маемасьці. А дзеля таго, што іх вельмі многа, дык у кожным выпадку будуць трашчаць чубы расейскіх мужычкоў. Іх не пашкадуюць ні новыя паны — камуністыя, ні даўнейшыя рознакаліберныя, якія (калі гэта ім удасца, што магчыма), вернуцца да ўлады.

У чаканьні далейшых падзеяў, гэтым сёньня і канчаем наш агляд. **Зыркі.**

# З жыцьця Польшчы.

### Цар—генэральны выбарны камісар.

13-га сьнежаня прэзыдэнт назначыў генэральнага выбарнага камісара. Ёсьць ім заступнік міністра справядлівасьці—Станіслаў Цар. Заступнікам генэральнага выбарнага камісара назначаны Фэлікс Дуткевіч—віцэ-старшыня варшаўскага апэляцыйнага суду.

### Яшчэ пасада.

Міністэрства Справядл. увяло ў Польшчы пасаду памочніка ката (палача).

Няўжо-ж ня справіцца з „працаю" дзяржаўны кат? Цікава...

### Польскія апэтыты.

Разьбіўшы Нямеччыну, Антанта зрабіла ўсё, што магла, каб якнайстаранней абшчыпаць паваленага льва.

Вынікам гэтага, Антанта адарвала ад Нямеччыны места Гданск (Данцыг) і стварыла з яго вольнае места і аддала яго пад апеку Лігі Нацыяў. „Вольнасьць" Данцыга выяўляецца ў тым, што кіруе ім вярхоўны камісар, вызначаны Лігай, хоць ёсьць там і выбраны народам Сэнат. Паміж Сэнатам Данцыга і камісарам Лігі паўстаюць часамі маленькія разыходжаньні, але—неяк да паважных канфліктаў ніколі не даходзіла. Другая „вольнасьць" Данцыга ў тым, што ў яго гавань (затока, дзе спыняюцца караблі) маюць права заходзіць караблі ўсіх дзяржаваў, якія маюць права карыстацца і з данцыгскага порту. Могуць нагружаць і выгружаць тавары і г. д. І вось Польшча задумала скарыстаць з гэтага з асобнымі прывілеямі, бо задумала на тэрыторыі Данцыга пабудаваць ваенную базу (склад вайсковых прыладаў) і мець стаянку для ваенных караблёў (якіх яшчэ здаецца ня мае, але пэўна думае будаваць).

Разумеецца, што Данцыг на гэта не згадзіўся. Справа перашла ў Лігу Нацыяў.

Данцыгскія прадстаўнікі свой адказ, у дазволе Польшчы карыстацца Данцыгам у мэтах ваенных, Данцыг тлумачыць тым, што ў выпадку вайны Польшчы з якою-колечы дзяржаваю — працоўная старана Польшчы будзе мець прычыны дзеля таго, каб абстраляць Данцыг, ведама, страляючы па польскіх вайсковых складах ды караблёх.

Ліга Нацыяў не магла найсьці выхаду з гэтага, дык прадстаўнік Данцыга Зам вывяў Лігу з тупіка: ён запрапанаваў Лізе Нацыяў выразіць пажаданьне, каб Польшча і Данцыг заладзілі гэтае пытаньне палюбоўна—самі паміж сабою. На гэтым справа і закончылася. Як бачым, польскія апэтыты—галодныя.

### На радасьць польскім манархістым.

Польскія абшарнікі і наагул тыя тыпы, якія маюць вялікую маемасьць—вельмі баяцца, каб усяго гэтага не пазбыцца. Дык як ратунак, думаюць завясьці ў Польшчы манархічны лад і перадаць уладу ў адныя рукі—каралю. Дагэтуль абшарнікі яшчэ ўсё ніяк ня мелі такое асобы, якая-бы адпавядала іх смаку, дык справа манархізацыі Польшчы афіцыяльна неяк адцягвалася.

Нямецкія газэты падалі вестку, што ў гістарычным музэі ў Дрэздэне (Саксонія, скуль паходзіў родам) знайдзена карона польскага караля Аўгуста Моцнага. Карона гэтая амаль-што сто гадоў валялася ў музэі ў горбе, дзе зваляна ўсякае сьмецьце.

Дык няхай-бы манархістыя пашукалі-б дзеколечы ў іншым месцы на сьметніку, ці не знайшлі-б часам там кандыдата на караля!...

### Памагаюць... але ня тым, каму трэба.

На паседжаньні рады міністраў 12 сьнежаня г. г. між іншым прыняты праект распараджэньня прэзыдэнта рэспублікі аб выдачы аднаразовае запамогі ўсім урадоўцам, паштова-тэлеграфным служачым, чыгуншчыкам і ваенным.

Калі-ж падумаюць аб сялянах?

### Безрабоцьце павялічваецца.

Безрабоцьце ў Польшчы стала павялічвацца. 3-га сьнежаня лічылася 178,681 безработных. За тыдзень безрабоцьце павялічылася на 26,074 асобаў.

### Катастрофа на чыгунцы.

15-га сьнежаня на ст. Мацеяўка, каля Каламы, пасажырскі цягнік наехаў на таварны. Абодва цягнікі, 6 таварных вагонаў і 1 вагон 3-цяе клясы разьбіты, 13 чал. цяжка ранена.

# Ліцьвіны Віленшчыны і жэнэўская рэзалюцыя.

У сувязі з рэзалюцыяю Рады Лігі Нацыяў у справе польска-літоўскага канфлікту „Kurjer Wileński" ў № 287 ад 16 сьнежня г. г. падае гутарку свайго карэспандэнта з д-рам Альсэйка, старшынёю Віленскага Часовага Літоўскага Камітэту.

На пытаньне карэспандэнта, як тутэйшае літоўскае грамадзянства прыняло жэнэўскую рэзалюцыю, д-р Альсэйка адказаў, што літоўскае грамадзянства з непакоем чакала выніку перагавораў у Лізе Рады Нацыяў і з задаваленьнем прыняло вестку аб тым, што ваенны стан паміж Польшчаю і Літвою спынены. Д-р Альсэйка надзеецца, што Ліцьвіном у Віленшчыне будзе магчыма ізноў весьці культурнаасьветную працу.

Разважаючы наступнае пытаньне, аб палітычных настроях у Літве па рэзалюцыі Рады Лігі Нацыяў, д-р Альсэйка дапускае, што ў Літве трэба чакаць злучэньня ўсіх палітычных групаў і што прэм'ер Вальдэмарас пойдзе на ўступкі і павінен будзе лічыцца з апазыцыяю.

— Ці тутэйшыя Ліцьвіны будуць супрацоўнічаць з Палякамі добрае волі, каб унармаваць польска-літоўскія адносіны? — пытае карэспандэнт.

— Спадзяюся — кажа д-р Альсэйка — што гэта будзе, але літоўскае грамадзянства будзе чакаць пачыну ад польскага ўраду як: адчыненьне замкнутых літоўскіх школаў, не рабіць перашкодаў у адчыненьні новых і зацьверджаньні вучыцеляў. Літоўскае грамадзянства вельмі нездаволена справаю арыштаваньня ліцьвіноў, каторых цяпер налічваецца да 30 чалавек.

Што датычыць апошняга пытаньня, у якім стасунку віленскія Ліцьвіны да „Krajowego Stronictwa Ludowego Z. L. B. Zjednoczenia" д-р Альсэйка адказаў, што Ліцьвіны натуральна, будуць падтрымліваць аўтанамічны рух, але пачыншчыкамі гэтага руху ня будуць, бо іх імкненьні ідуць далей.

Сваю гутарку д-р Альсэйка закончыў тым, што паміж Літвою і Польшчаю настануць добра-суседзкія адносіны, калі Польшча пойдзе па шляху ўступак, прызнаючы ў поўнай меры слушныя прэтэнзіі Ліцьвіноў да Віленшчыны.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Адмаўляюцца ад ваеннае службы.

Адзін з павадыроў ангельскае работніцкае партыі перадаў прэм'еру Бальдвіну заяву, пакрытую 129.000 подпісамі. Асобы, падпісаўшыя заяву, абавязаліся ў выпадку вайны адмаўляцца ад ваеннае службы і ўсіх ваенных работаў, якімі-б яны ня былі. Адмову сваю яны паясьняюць тым, што кожны міжнародны канфлікт можа быць уладжаны мірнымі сродкамі.

### Комінтэрн падгатаўляе сусьветную рэвалюцыю.

Амаль адначасна з выступленьнем Літвінава ў Жэнэве, дзе ён завяраў усіх прысутных у міралюбстве СССР., Бухарын у Маскве дакладываў аб дзейнасьці Камінтэрна.

У сваім дакладзе Бухарын падкрэсьліў, што рэвалюцыя, асабліва-ж рэвалюцыя ў калёніях, зьяўляецца цяпер найбольш актуальным пытаньнем Комінтэрна. Бухарын прапанаваў падрыхтаваць грунт для такой рэвалюцыі і сказаў, што яе ня трэба праводзіць у асобных калёніях, адначасна. У канчатку Бухарын указаў на неабходнасьць павялічэньня камуністычнае прапаганды за граніцаю, пры чым у калёніі павінен быць перанесяны ўвесь асяродок камуністычнае дзейнасьці.

### Порт Лівэрпуль заліты нафтаю.

У мілі ад порту Лівэрпуль (у Англіі) разьбіўся карабель, які вёз нафту. Восім тысяч тоннаў (тонна 61 пуд) нафты сплывае ў напрамку порту. Мабілізаваная паліцыя пільнуе надбярэжжа, каб ніхто ня кідаў у ваду ніякіх лёгка-гаручых матэр'ялаў.

### Крым пасьля зямлятрасеньня.

У гэтым годзе на паўвостраве Крым былі частыя зямлятрасеньні. Надовячы спэцыяльная камісія аглядала ялцінскі раён, як найболей пацярпеўшы. Камісія аглядзела 24 вёскі і знайшла, што з 6.000 дамоў, пацярпела 3.230, пры чым 543 дамы зусім разбураны. Без даху асталося болей 8.000 чалавек.

### Крывавыя падзеі ў Калюмбіі.

У Калюмбіі (паўдзённая Амэрыка) у местах Баранквіля і Картагене ўспыхнула паўстаньне проціў ураду. Дзяржаўная артылерыя перайшла на бок паўстанцаў. Ідуць баі па вуліцах. Да гэтага часу згінула 500 чалавек.

# НАВІНЫ.

Дня 28-га сьнежаня с. г. у Вільні адбудзецца зьезд Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту. На зьезд запрошаны прадстаўнікі з усіх паветаў Заходняе Беларусі. На зьезьдзе будуць разважацца справы датычачыя выбараў у Сойм і Сэнат.

Беларускі Народны Тэатр Бел. Інст. Гасп. і Культ., пасьля аб'езду некаторых паветаў Віленшчыны, мае вярнуцца на сьвята ў Вільню. У Вільні Бел. Нар. Тэатр зробіць 2 выступленьні: 28-га і 30-га сьнежня с. г. Між іншым будзе адыграна драма ў 4-х актах „Хам".

№ 4 „Права Працы" за артыкул „Балячкі нашае вёскі" 17 сьнежаня канфіскаваны Каміс. Ураду на м. Вільню. Рэдактар цягнецца да суд. адказнасьці па 129 арт. К. К.

16 сьнежаня канфіскаваны два чарговыя №№ (9 і 10) месячніка „Natio" — орган нацыянальных меншасьцяў. Улады дагледзілі ў іх быццам „антыпаньствовыя артыкулы.

Віленскі ваявода паслаў Міністру Ўнутраных Спраў даклад аб звальненьні ад налогаў уласьнікаў паляўнічых ружжаў і вэлясыпэдаў...

Трэба-ж палегчыць „цяжкі лёс" паноў, на тое — „санацыя".

У мястэчку Мёрах, Браслаўскага павету, віленскі ваявода ўвёў кірмашы на коні. Кірмашы будуць адбывацца ў найбліжэйшыя сераду, чацьвер і пятніцу 1) па Трох Каралёх (6 студзеня), 2) па Сьвят. Яна (24 чэрвеня) і 3) па Ўсіх Сьвятых (1 лістападу).

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

### Сэнсацыйнае галасаваньне.

У ангельскай Палаце Грамад (Сойм) 17 сьнежаня, пасьля бурных і доўгіх прамоваў, большасьцю 247 галасоў проціў 205, адкінуты закон аб увядзеньні новае афіцыяльнае кнігі малітваў. Камэнтуючы гэта ангельскія газэты, бачаць перамогу ўраду над царквою. Паведамляюць, што гэтае галасаваньне на кэнтэрбэрыйскага архіепіскапа зрабіла такое ўражаньне, што ён нават думае... пакінуць сваю пасаду.

# „Выбарныя Інструкцыі".

Каб аблягчыць працу актыўных працаўнікоў на вёсцы, падаючы ім канкрэтны плян працы і адначасна выясьніць абавязуючыя законы ў справе выбараў у Сойм і Сэнат, Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт у Вільні выдае на гэтым тыдні кніжку:

**„ВЫБАРНЫЯ ІНСТРУКЦЫІ".**

Зьмест кніжачкі наступны: Што трэба ведаць кожнаму выбаршчыку Беларусу? Як закладаць Выбарныя Камітэты на мясцох? Закон аб выбарных сходах і форма заявы аб выбарных сходах пад адкрытым небам. Як весьці працу ў мясцовых Выбарных Камітэтах? Выбарны Закон (важнейшыя выбарныя правілы, узятыя з Дз. Уст. № 66—1922 г.). Выбарны календар і форма рэклямацыі.

**Выбарныя Інструкцыі** кожны можа сабе выпісаць, прысылаючы на перасылку паштовых марак на 25 грошы.

**Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт, Вільня, Вострабрамская 8—1.**

# Усячына.

### Апэрацыя... сэрца!

У адной лякарні каля Стакгольму ў канцы мінулага месяца былі зроблены дзьве вельмі цікавыя апэрацыі. А абодвых выпадках апэравалі людзей, у каторых затрымалася дзейнасьць сэрца ў выніку таго, што ў сэрцы стварыўся згустак крыві. Дактары прызналі сьмерць... Але посьле таго, як крывяны згустак быў выкінуты з сэрца, дзейнасьць яго ўзнавілася і апэраваныя людзі пачалі дыхаць. Абодва пацыенты (хворыя) ў цяперашні час здаровы.

### Алёхін—кароль шахмацістаў.

На міжнародных сусьцігах у Буэнос-Айрэс (Паўдзённая Амэрыка) расейскі шахмацiст Алёхін здабыў назоў „караля шахмацістаў". Алёхін выйграў больш за 40 партыяў ад сучаснага „караля шахмацістаў"—Канабланкі.

### Адмена сьмяротнае казьні.

Саксонскі парлямант (у Нямеччыне) 1-га сьнежаня г. г. пастанавіў адмяніць сьмяротную казьнь.

А Польшча... уводзіць павешаньне!

# Дзеравяны кароль.

**(Са збору чэскіх казак Захара).**

Са спольшчанага пераклаў
*Улад. Паўлікоўскі.*

Аднаму каралю прышла неяк думка: раненька, калі ўсе яшчэ ў замку сьпяць, выйсьці самому на спацыр за мяжу свайго парку (гаю).

Ідзе ён, ды ідзе, і зайшоў на поле, дзе нейкі земляроб спацеўшы гараў зямлю. Праз нейкі час кароль прыглядаўся да яго карплівай працы, ну, і ня мог, пэўна, не заўважыць, як той бядак мучыўся, крою́чы плугам каменістую глебу.

На канчатку кароль прагаварыў да земляроба:

— Цяжка, запраўды, працуеш на свой хлеб, дарагі мой.

— Ха! ха! ха! — засьмяяўся селянін — мяркую, што гараць трохі цяжэй, чым кіраваць там у палацы.

Разгневаўся кароль і кажа гэтак:

— Ведай, прыяцелю, і запамятай сабе раз на заўсёды, што кожны знае добра толькі сваю ўмеласьць, і што ты аб кіраваньні дзяржаваю і паняцьця мець ня можаш. Ня ёсьць гэта лёгкім як табе здаецца.

І пачаў шырока і доўга правіць селяніну, колькі гэта ён, стоючы на чале дзяржавы, мае трудоў і клопату, як павінен судзіць вінаватых, гадзіць сварлівых і як няраз лопае яму галава з надмеру заняткаў і нуды.

— Го! го! — закончыў кароль — бяз розуму і інтэлігенцыі караля, дзяржава ў хуткім часе ўпала-б.

Селянін толькі пагардліва надуў вусны і нічога на разе не адказаў.

Толькі па хвілі, выдзьмухаўшы сваю люльку і наладаваўшы яе нанова табакаю, пазіраючы некуды ў бок лесу, гэтак адазваўся:

— Залажэмся, Вашая Каралеўская Міласьць, што дзяржава можа дасканальна існаваць без караля, а ніколі не абашлося-бы без селяніна. Без селяніна ўзапраўды згінула-бы, але ніколі без караля.

Тагды кароль, ужо добра разгневаны, крыкнуў:

— Ах ты закуты лоб! Што ты мне аб пусьцяковінах будзеш мямліць. Зараз-жа ідзі са мною ў палац і там пакажы, што ўсё ёсьць праўдаю тое, што ты кажаш. Бяда-ж табе будзе, калі не пакажаш праўдзівасьці свайго цьверджаньня. Галавою прыплаціш зухвальства свае!

Але селянін не спалохаўся. Зусім спакойна пацлёўся за каралём да палацу. Калі прышлі ў палац, завялі селяніна ў сьлічны пакой, каторы быў у бакавой вежы, далі яму есьць і піць такіх добрых рэчаў, якіх бедны селянін ніколі ў жыцьці ня бачыў, і сказалі, што да заўтрашняе раніцы ён альбо дакажа праўдзівасьць сваіх слоў, альбо згіне.

Селянін замкнуўся ў пакоі, пачаў там нешта майстраваць. Ніхто ня ведаў што ён там робіць, бо ніхто да яго ня ўходзіў, апрача старога Мацея, каторы каралю чысьціў боты і быў на паслугах пры двары. Ён прышоў і прынёс некульні полен дроў.

Селянін там нешта пільна дзеўбаў, а калі прышоў змрок, прасіў сказаць каралю, што ўсё гатова і каб кароль прызволіў прыйсьці, але каб нікога з сабою ня браў, хіба толькі старога Мацея.

— Вось, няхай Ваша Вялікасьць гляне — прагаварыў селянін да ўваходзячага караля, — што я тутака выдумаў. Выдаўбаў чалавечую постаць з дрэва, праўда, ня дыскты́нтоўна, але гэтак, як гэта сякераю і ножыкам зрабіць удалося. Толькі, што абчасаў трохі, але хваце гэтага! Прыбяру яе цяпер у каралеўскае адзеньне Вашай Дастойнасьці — і яна будзе кіраваць. І, без абразы Вашай Дастойнасьці, будзе кіраваць справамі ня горай ад Вас, Міласьцівы Кароль. Трэба толькі, каб Мацей пільна сачыў і добра цягаў за шнурок. Такім спосабам дакажу Вам, Міласьцівы Кароль, што я казаў праўду і выграю заклад.

— Добра, добра, мой сыне — адказаў кароль — а ў праціўным выпадку мы трохі цябе скароцім, ня многа, бо толькі на галаву.

Наступнага дня раніцаю, калі ўсе яшчэ спалі, занёс селянін пры помачы Мацея дзеравяную ляльку ў тронавую салю. Пасадзілі яе на троне, прыбралі ў шаты, пазычаныя ад караля. Кароль-жа надзеў сьвятачнае адзеньне Мацея і схаваўся за занавесаю. А тут ужо пачалі зьбірацца служакі прывітаць караля і кожны з іх рабіў глыбокі паклон і казаў „дзень добры" каралю. А як толькі дзеравяны кароль, катораму са служыўцаў адказаў кіўком галавы, нібы дзякуючы за прывітаньне, дык гэты служака задзіраў нос і на іншых ледзь пазіраў згары.

Потым пачаўся суд.

Кароль слухаў абедзьвюх старон аднолькава без захапленьня, потым міністар нешта шаптаў яму ў дзеравянае вух, кароль патакаў і міністар аглашаў прысуд: таго павесіць, гэтага высьцебаць, таго запакаваць у вастрог. Гэтак як і заўсёды звыклася вымерываць справядлівасьць.

І так ішло да канца.

Потым усе вышлі і адыходзячы хвалілі каралеўскую справядлівасьць. Кароль-жа, схованы за занавесаю, ня мог ня прызнаць селяніну рацыі. Але, дурны селянін меў рацыю! Вось! дзеравяная лялька сядзіць на троне, а ўсё ідзе як заўсёды, як быццам, гэта ён сам, кароль, там сядзеў і кіраваў.

Селянін выйграў залог, але і кароль хацеў даказаць свае, што і без селяніна дасканальна можна абысьціся.

„Выдлубаю, як і селянін, фігуру з дзерава і пераканаю селяніна, што і без яго можна існаваць" — думае кароль.

Селянін ахвотна згадзіўся, нават пазычыў свой ножык, але, бачачы, што кароль можа пакалечыць пальцы, а нічога ня выстругае, сам памог яму выдзяўбці дзеравяную фігуру.

Калі фігура была гатова, абодва пашлі на поле, на каторым стаялі яшчэ плуг і валы так, як іх селянін пакінуў учора, адыходзячы да каралеўскага палацу.

Устанавілі ляльку пры плузе і кароль пачаў моцна цягаць за шнурок раз-па-разу, але дзеравяны селянін ніяк не гараў зямлі. Нічога не рабілася.

Разгневаўся кароль, аж страх. А калі селянін зажадаў нагароды за выграны заклад, дык гэтак раззлаваў караля, што той аж крыкнуў, кажучы селяніну: ты павінен быць шчасьлівы і davольны тым, што вяртаешся дамоў з цэлаю галавою.

Вярнуўшыся-ж у палац, кароль злосна аб'явіў, што ніякімі дзяржаўнымі справамі ён болей ня будзе займацца.

І сталася гэтак, што ў той дзяржаве (ў якой, гэтагага сказаць не магу) — кіруе дзеравяны кароль.

І ўсё ідзе добра і складна і ў як найлепшым парадку, толькі стары Мацей, каторы чысьціць каралеўскія боты, павінен—калі патрэба—ўважна і моцна цягаць за шнурок, каб галава каралеўскае фігуры ківалася, калі трэба адказаць на прывітаньне, ці даць згоду міністру на якую-колечы расправу з падуладнымі.

